



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (1124) ГОД XXII БЕЛАСТОК 11 ВЕРАСНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.


# КАДРЫ ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Што чуваць у сельскагаспадарчай асвеце?

З такім пытаннем я звярнуўся да старшага візітатара аддзела сельскагаспадарчай асветы Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку мгр інж. **Чэслава Крышкевіча.**

— Вельмі прыемныя весткі, — заўважыў мой размоўца. — Цяпер перад сельскагаспадарчай асветай адкрыта зялёнае святло. І гэта натуральна: у сувязі з ажыццяўленнем агульнанацыянальнай праграмы харчавання патрэбны грунтоўна адукаваныя сяляне і ўзброены ведамі абслугоўваючы сельскую гаспадарку персанал. Дзеля гэтага ў мінулым годзе ўрад прыняў спецыяльную праграму ў справе забеспячэння кадрамі сельскай і харчавой гаспадарак нашай краіны. На гэтай аснове Экзекутыва ВК ПАРП у Беластоку ў студзені 1977 г. прыняла праграму развіцця сельскагаспадарчай асветы ў гадах 1976 — 1980 у нашым ваяводстве.

— Што яна прадбачвае?

— Перш за ўсё павелічэнне колькасці моладзі ў рознага тыпу сельскагаспадарчых школах. Калі ў мінулым 1976/77 школьным годзе было ў нас 5 810 вучняў, то ў бягучым 1977/78 школьным годзе навучаецца 7 550 вучняў, а ў 1980 годзе будзе каля 10 500 вучняў, значыць, іх колькасць павялічыцца на 66 працэнтаў. Зразумела, што гэта патрабуе адкрыцця новых школ або новых класаў у дзейнічаючых ужо школах. І так, ужо арганізавана 4 новыя сельскагаспадарчыя школы: механізацыі сельскай гаспадаркі ў Дайлідах, агародніцтва ў Чартаеве, сельскагаспадарчыя ў Кнышыне і Яжэве. У мінулым годзе паўстала 6 новых сельскагаспадарчых тэхнікумаў для працуючых: у Моньках, Саколцы, Гайнаўцы, Янове, Бранску, Кнышыне. А ў бягучым годзе пачаў працу такі ж тэхнікум у Яжэве. З 1 верасня гэтага года ў нашым ваяводстве пачало працаваць 7 сельскагаспадарчых ліцэяў — цалкам новых тыпаў школ. Яны адкрыліся пры агульнаадукацыйных ліцэях у Сухаволі, Кнышыне, Моньках, Драгічыне, Міхалове, Дубрbox Беластоцкай і Лапах. Узніклі таксама 3 новыя прафесіянальныя сельскагаспадарчыя студы, у якіх займоцца асобы, што маюць закончаную сярэднюю адукацыю. Агульнасельскагаспадарчыя студы паўсталі ў Дайлідах і Чартаеве, а механі-

(Працяг на стар. 4)



## Ферма для тысячы авечак

У чыстым полі на пясчаным узгорку за вёскай Тапаляны, ля дарогі з Заблудава ў Міхалова, спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Міхалове будуе велізарную ферму для гадоўлі авечак. Тры гаспадарчыя будынкі ўжо здадзены ў карыстанне, а наступныя тры яшчэ будуюць.

Кіраўніком тапалянскай фермы з'яўляецца **Генрык Янчыла.** Ад яго я даведаўся, што ўжо цяпер у трох будынках гэтай фермы гадуюць больш 1000 авечак. Каб пракарміць такую колькасць гэтай ваўністай жывёлы, ферма прыняла ў загаспадарванне звыш 700 га дзяржаўнага фонду зямлі. Жывёлаводы ў Тапалянах спецыялізуюцца ў гадоўлі пародзістых ягнят. За мінулы год дабіліся яны высокага прыбытку: 780 тысяч злотых чыстага даходу.

(вр)

Фота аўтара

# ЮБІЛЕЙ ЧАРОМХАЎСКІХ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Зараз у Чаромсе дакладна не ведаюць, калі сапраўды пачало кіпець жыццё на чыгуначнай станцыі. Адны кажуць, што Чаромхаўскі чыгуначны вузел пачаў сваю гісторыю ад 1905 года, іншыя — што ў 1906 годзе. Мясцовыя ўлады прынялі (на аснове апавяданняў старажылаў), што праца на станцыі пачалася ў 1907 годзе. І вось таму ў гэтым годзе святкуецца 70-гадовы юбілей.

Хачу аднак дадаць, што і раней праз Чаромху ездзілі паязды, бо была тут станцыя.

Мала засталося ў жывых людзей, якія памятаюць гісторыю Чаромхаўскага чыгуначнага вузла. Вось, напрыклад, Ян Рэпка з Кузавы так успамінае мінулае.

— Калісь мне бацька расказваў, што ў 1876 ці 1877 (дакладна не памятае) праз Чаромху прайшоў першы поезд з Брэста ў Беласток. З таго часу бяруць пачатак гісторыя нашай чыгункі. Чаромха была толькі пралётнай мясцінай на шляху Брэст-Беласток.

У 1901 годзе пачалі класці ў Чаромсе чыгуначныя рэйкі. Праз тры гады пайшлі паязды з Седлец у Балагое цераз Ваўкавыск. Гэта была ўжо новая лінія. Была ў нас прыгожая станцыя — мураваная, з чырвонай цэглы. Аднак у час першай сусветнай вайны знішчылі яе немцы. Пазней станцыю адбудавалі. Будынак быў таксама мураваны, двухпавярховы. І стаяў да 1944 года. Калі немцы ўцякалі, знішчылі станцыю дашчэнту. Не засталося нічога, толькі руіны.

— Пры царскай Расіі, — працягвае сваё апавяданне Ян Рэпка, — толькі некалькі чалавек працавала на чыгунцы. Дзяжурныя па станцыі, стрэлачнікі, сцэпшчыкі і яшчэ некалькі асоб — гэта была ўся каманда станцыі. Праца была на тры змены. На граніцы, 15 лютага 1919 года, у Чаромху прыйшоў першы польскі паравоз. У тым жа годзе адкрываецца паравознае дэпо і склад паліва. Пайшлі на працу чаромхаўскія машыністы, слесары...

— Я на чыгунцы пачаў працу ад 1 мая 1921 года. Пачаткова працаваў рабочым, а ў 1927 годзе здаў экзамен у Вільне на кандуктара, сцэпшчыка і таровара. Мяне залічылі ў калектыў спецыялістаў. А іх тады было нямнога...

(Працяг на стар. 4)

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БАРАТЫНЕЦ РУСКІ

Баратынцаў мае Надбужжа два і абодва знаходзяцца ў двух-трох кіламетрах на паўночны захад ад чыгуначнай станцыі Сямяцічы. Розніца паміж імі ў асноўным зводзіцца да таго, што ў **Баратынцы Ляцкім** размаўляюць на гаворцы, набліжанай да мазавецкага дыялекту, а ў **Баратынцы Рускім** пануе палескі дыялект беларускай мовы. Пачаткі ж абедзвюх вёсак крыюцца ў адным сяле, якое паўстала, мабыць, у ранніім сярэдневеччы. На гэтую амаль тысячагадовую даўнасць паказвае сама назва „Баратынец", якая паходзіць ад папулярнага ў IX—XIII стагоддзях усходнеславянскага імя „Борислав" (ад яго выводзіліся імёны „Борис", „Борята" і іншыя). Відаць, першапачаткова гэта было сяло, у якім жылі сяляне ўсходнеславянскага паходжання. Потым, калі пасля нейкай кровапралітнай вайны або смертаноснай пошасці аказалася многа палеткаў пустых, на іх былі „пасаджаны" сяляне мазавецкага паходжання. Гэта наступіла калі не пры вялікім князі літоўскім Вітаўце, які вельмі любіў Надбужжа, часта і доўга прабываў у Драгічыне, дык напэўна пры ўладальніцы Сямяціч і іх наваколля Анне Ябланоўскай, што вяла тут актыўную гаспадарчую і культурную дзейнасць у другой палове XVIII стагоддзя.

Тхненне даўнасці адчуваецца таксама і ў назве луга **Лідзімо,** якая выразна яцвяжскага або літоўскага паходжання („lyda", „lydimas" па-літоўску абазначае вырубанае або выпаленае месца ў лесе, праseку; поле на месцы вырубанага лесу; гладкае месца без пагоркаў і г.д.), што паказвае на колішняе прабыванне тут людзей з балтыйскіх плямёнаў і іх гаспадарчую дзейнасць. Нейкае адлеглае рэха таго факту, што Баратынец знаходзіўся на колішнім надта рухлівым шляху, які вёў уздоўж ракі Буга з поўначы на поўдзень, а ў гэтых ваколіцах ён злучаў старажытныя Мельнік з Драгічынам, захавалася ў мясцовай традыцыі называць палеткі паводле дарог, напрыклад, поле або луг: **Бацікоўска Дарога** (палетак знаходзіцца каля дарогі да вёскі Бацікі),

(Працяг на стар. 4)



*Солтыс Баратынца Рускага і кіраўнік мясцовага філіяла сямяціцкага СКР-у Ян Эканамюк рыхтуецца ехаць у поле.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"




## ВЯЛІКІ БІЗНЕС НА МАЛЕНЬКІХ „КЛАПАХ“

У Федэратыўнай Рэспубліцы Германі бурна развіваюцца дзве новыя галіны бізнесу. Адна — у сферы вытворчасці, другая — у сферы паслуг. Абедзве з'яўляюцца, так сказаць, плёнам „цікаўнасці“, якая выходзіць за канстытуцыйныя рамкі. А прасцей кажучы — прадуктам масавага шпіянажу за асабістым жыццём і службовай дзейнасцю заходнегерманскіх грамадзян.

Як у дзяржаўных органаў, так і ў асобных грамадзян усё часцей узнікае жаданне даведацца як мага больш падрабязна аб тым, што некаторыя асобы ні ў якім разе не хацелі б рабіць здабыткам публічнасці. Вырашыць гэту супярэчнасць дапамагаюць маленькія электронныя канструкцыі, якія называюць проста „клапамі“. Мініяцюрны УКХ — перадатчык з аўтаномным сілкаваннем, укамплектаваны яшчэ больш мініяцюрным мікрафонам, усё разам размерам з запалкавы карабок — так выглядае стандартны „клоп“. Яго няцяжка засунуць куды-небудзь за шафу, за карціну, што вісіць на сцяне, або ўманціраваць у тэлефонны апарат. Цяпер дастаткова абсталяваць у радыусе перадатчыка невялічкую прыёмную станцыю, настроеную на тую ж хвалю, — і можна літаральна купацца ў патоку інфармацыі, не прызначанай для чужых вачэй.

Заходнегерманскі часопіс „Шпігель“, які пазнаёміў сваіх чытачоў з тэхналогіяй электроннага вышуку, піша, што гандаль падслухоўваючымі апаратамі працвітае, і гадавы яго аб'ём ацэньваецца цяпер прыкладна ў пяць мільёнаў марак. Паводле звестак паліцыі, штогадовы выпуск такіх апаратаў, уключаючы вырабы „радыёаматараў-саматужнікаў“, перавышае сто тысяч штук. Вядома і кола пакупнікоў. У снежні 1973 года дэтэктывам удалося заглянуць у картатэку кліентуры аднаго гамбургскага фабрыканта „клапоў“. Там было ўказана каля дзвюх тысяч заказчыкаў — і адвакаты, і буйныя прамыслоўцы, і... служачыя самай паліцыі.

У якасці рэакцыі ў адказ узнікла прафесія паляўнічых за „клапамі“. Прыватны дэтэктыў Хорст Фезель з Франкфурта-на-Майне рэкламуе свае паслугі наступным чынам: „Пошук міні-шпіёнаў — сто марак у гадзіну“. А ў Боне (ужо ці не ў выніку блізкасці некаторых урадавых устаноў, якія вызначаюцца асаблівай „цікаўнасцю“) дзейнічае цэлая фірма „Інтэрэлектронік“, якая гарантуе сваім кліентам „упэўненасць, што іх не падслухоўваюць ва ўласнай кватэры“.

Справа гэта не такая ўжо спакойная, бо згодна з прынятым яшчэ ў 1928 годзе законам выкарыстанне спецыяльных прыёмных канструкцый і перадатчыкаў адносіцца выключна да кампетэнцыі паштовага ведамства. А паколькі пры пошуку „клапоў“ без такіх канструкцый не абысціся, „следапыты“ часта парушаюць існуючыя правілы, рызыкуючы падвергнуцца штрафу, а то і сесці ў турму. І ўсё-такі колькасць тых, хто карыстаецца іх паслугамі, пастаянна расце.

Сёй-той апасаецца сачэння з боку прыватных асоб, некаторыя шукаюць абароны ад прамысловага шпіянажу, але многія „падазраюць паліцыю ці ведамства па ахове канстытуцыі“ (гэта заходнегерманскі эквівалент палітычнай паліцыі). „Ужо ў 1973 годзе, — піша часопіс, — апытанне, праведзенае сярод тэлефонных абанентаў, паказала: кожны шосты мяркуе, што яго размовы падслухоўваюцца. І скандальныя справы, падобныя да нядаўняй акцыі супраць атамнага фізіка Клауса Роберта Траўбэ (ведамства па ахове канстытуцыі западозрыла яго ў сувязях з „радыкаламі“ і, узламаўшы кватэру вучонага, устанавіла там падслухоўваючыя апараты. — В. Н.), толькі ўзмацняюць гэтыя падазрэнні“.

Калі яны апраўданы, а ў гэтым мала хто сумняваецца, то кіраўнікоў міністэрства пошт можна зразумець. Пачнеш праяўляць энтузіязм — яшчэ знімеш казённага „клапа“. Ідзі потым, давай тлумачэнні „ахоўнікам канстытуцыі“.

**В. Нікалаеў**



**Летапіс дружбы.** *1969 год. Піянеры школы-васьмігодкі вітаюць польскіх гасцей на радзіме Станіслава Манюшкі (150-годдзе з дня нараджэння вялікага польскага кампазітара шырока адзначала Беларусь).*

### ПРЫПАМІНАЕМ! ХТО ХОЧА ПАЕХАЦЬ У ГРОДНА?

## НАШ КОНКУРС

У жніўні супольна з „Гродзенскай праўдай“ і „Газетай Вспулчэснай“ аб'явілі мы вялікі конкурс „Сярод сяброў“. Прыпамінаем, што ў ім могуць прыняць удзел усе нашы чытачы.

А вось 11 пытанняў, на якія трэба падрабязна адказаць.

1. Якія мясцовасці звязаны з прабываннем У. І. Леніна ў Польшчы?
2. Калі Савет Народных Камісараў Савецкай Расіі абвясціў дэкрэт аб праве польскага народу на незалежнасць і самавызначэнне?
3. Назавіце палякаў — актыўных удзельнікаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (не менш пяці прозвішчаў).
4. Дайце некалькі прыкладаў супрацоўніцтва КПСС і ПАРП (сустрэчы на вышэйшым узроўні, узаемныя візіты партыйных дзеячоў па абмену вопытам і інш.).
5. Калі быў падпісаны дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж СССР і ПНР і калі быў прадоўжаны на далейшы перыяд?
6. Назавіце важнейшыя міжнародныя мірныя ініцыятывы з удзелам СССР і Польшчы.
7. У будове якіх аб'ектаў, пабудаваных і будуючыхся на тэрыторыі Польшчы, бярэ ўдзел СССР? (Назавіце не менш трох аб'ектаў).
8. У будове якіх аб'ектаў, пабудаваных і будуючыхся на тэрыторыі СССР, бярэ ўдзел Польшча? (Назавіце прынамсі тры аб'екты).
9. Якія вышэйшыя навучальныя ўстановы Гродна і Беластока супрацоўнічаюць між сабой?
10. Якія прадпрыемствы і ўстановы Беластока і Гродна супрацоўнічаюць і падтрымліваюць сяброўскія сувязі?
11. Калі адбыўся першы Фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры, каторы па ліку апошні фестываль і хто з'яўляецца яго арганізатарам?

Чытачоў, адказы якіх журы прызнае найлепшымі, чакаюць спецыяльныя ўзнагароды. Дадатковай узнагародай для пераможцаў з нашага рэгіёна будзе двухдзённы побыт у г. Гродна, куды будуць яны запрошаны на ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод у лістападзе г.г. Пераможцы з Гродзеншчыны будуць у сваю чаргу запрошаны ў Беласток.

Апрача спецыяльных узнагарод, тых чытачоў, якія возьмуць удзел у конкурсе і прышлюць правільныя адказы, чакае яшчэ 15 іншых каштоўных узнагарод.

Запрашаем усіх нашых чытачоў прыняць удзел у конкурсе. Адказы неабходна прысылаць да 15 кастрычніка г.г. на адрас:

Redakcja „Niwy”, ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok. „Сярод сяброў“.




### АДРАС УНІВЕРСІТЭТА — ГРОДНА

Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб арганізацыі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Ён ствараецца на базе педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы і правядзе першы набор студэнтаў у будучым годзе.

Універсітэт будзе рыхтаваць кадры па спецыяльнасцях: матэматыка, фізіка, гісторыя, руская мова і літаратура, беларуская мова і літаратура. У наступныя гады мяркуецца адкрыццё новых факультэтаў і аддзяленняў.

### РАСЦЕ ЭКСПАРТ ТРАКТАРОЎ

Знешнегандлёвы абарот савецкага аб'яднання Трактараэкспарт, які займаецца экспартам і імпартам трактароў, сельскагаспадарчых і дарожнабудаўнічых машын, дасягнуў у мінулым годзе аднаго мільярда рублёў.

Буйнымі партнёрамі Трактараэкспарту з'яўляюцца фірмы Канады, а ў апошні час — і ЗША. Змешанае акцыянернае таварыства „Беларус Эквіпмент оф Кэнэда Лтд“, створанае тры гады назад, прадало канадскім фермерам некалькі тысяч савецкіх трактароў, буйныя партыі камбайнаў СК-5 „Ніва“ і СК-6 „Колас“, а таксама іншыя віды сельскагаспадарчага абсталявання. У пачатку 1977 года было створана і змешанае савецка-амерыканскае акцыянернае таварыства „Беларусь Машынэры Інкарпарэйтэд“.

У 1976 годзе Трактараэкспарт прадаў трактароў больш, чым за ўсе мінулыя гады. Гэтаму садзейнічаў поспех савецкіх машын на выпрабаваннях, праведзеных у шэрагу заходніх краін.

Акрамя таго, аб'яднанне атрымала ў многіх краінах вядомасць як фірма, якая не толькі гандлюе выдатнай тэхнікай, але і забяспечвае тэхнічнае абслугоўванне машын і ў перыяд дзеяння, і пасля скончэння гарантыі.

### НА РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ

Амаль мільён дзяцей зможа абуваць штогод новая фабрыка, якая прынята ў эксплуатацыю ў Магілёве. Спецыялісты распрацавалі дзевяць мадэлей летняга і зімовага дзіцячага абутку. Першыя ўзоры іх запушчаны ў вытворчасць.

На новай фабрыцы будзе выпускацца таксама мільён пар жаночага летняга абутку больш чым 25 мадэлей.

## ПАТРЭБНЫ РАМОНТ — ПАСЛЯ РАМОНТУ

Пісаў я аб гэтым у мінулым годзе і сёлета. З Гайнаўкі ў Палічну пабудавалі асфальтаваную шашу: адну праз Арэшкава і другую праз Дубічы Царкоўныя. За яе догляд і рамонт адказны Раён публічных дарог у Бельску. На некаторых адрэзках шаша была небяспечная — пралом за праломам. Наехаўшы матацыклам або веласіпедам, можна было перакуліцца. Пасля нашых сігналаў дарогу адрамантавалі. Але, відаць, абы-як. Зноў яна (і без інтэнсіўнай эксплуатацыі) папсавалася. А пра гэта няма ніякіх знакаў на дарозе. Падаю адрэзкі найбольш папсаванай дарогі: Пяскі — Вілюкі (у двух-трох месцах) і ад Дубічаў Царкоўных да жвіроўкі ў напрамку Чэхаў Арлянскіх (у адным месцы). Наогул па-за ўказанымі адрэзкамі адна і другая шаша без ухабін. Толькі там, дзе ўжо яе рамантавалі, няроўная. Так што ў гэтых месцах прыходзіцца ехаць па ненайлепшай брукаванай дарозе. Толькі там, дзе шашу рамантавалі салідна (хвала за гэта бельскаму Раёну публічных дарог), вельмі прыемна па ёй ехаць чым-колечы.

**Іван Непаседа**




**Sobota — 10.IX.** 6.30 Tech. Rol. Upr. roślin (25). 7.00 Mech. rol. (19). 7.30 Postrzeleniec — fab. film. węg. 9.00 Dla szkół: Nauka o czł. (kl. VIII). 10.00 Dla kl. VII. Zoolog. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. (2). 13.25 Mech. rol. (1). 13.55 Red. szk. zap. 14.05 Pr. dnia. 14.10 Radzimy rol. 14.20 Obiektyw. 14.40 Dziennik. 14.50 Dla dzieci. 15.20 Opowieści reporterów. 15.50 Nikt nie rodzi się żołnierzem — film radz. 18.00 Finał II Pucharu Świata w akrobat. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Marylin Monroe: Mężczyźni wolą blondynki. 22.05 Pr. rozr. 23.05 Dziennik. 23.20 Kino Nocne. Tajemnica Mumii — horror ang.

**Niedziela — 11.IX.** 6.35 Tech. Rol. Hod. zwierz. (2). 7.05 Mech. rol. (1). 7.35 Nasze spotkania. 7.55 Now. w domu i zagr. 8.10 Sport. 8.30 Pr. dnia. 8.35 Antena. 9.00 Teleranek. 9.50 Dożynki Centralne. 13.20 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek — 12.IX.** 13.25 RTV szk. śred. Fiz. (19). 12.45 J. pol. (25). 15.20 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 List sprzed pół wieku. 17.55 Stawka większa niż życie — serial TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. M. Roszczin: Małżeństwo szuka pokoju. 22.00 Camerata. 22.30 Gdy zaczynaliśmy. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 13.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (25). 7.00 Fiz. (19). 9.00 Dla kl. V: J. pol. 10.00 Dla kl. I—III: Czerw., żółte, ziel. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. VIII: Hist. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (12). 13.25 Chem. (12). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.20 W Starym Kinie. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Z życia wzięte — fab. film CSRS. 21.30 Świat i Polska. 22.05 Muzyka i ekran.

**Środa — 14.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J .pol. (12). 7.00 Chem. (12). 9.00 Dla kl. VI: Fiz. 12.00 Dla kl. VIII: Chem. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (32). 13.25 Biolog. (25). 15.20 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto pyta nie błądzi. 17.00 Teatrzyk dla przedszkol. 17.25 Los. Małego Lot. 17.40 Z przyrodą na Ty. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Gdzieś we Włoszech — fab. film USA. 21.45 Sport. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 15.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. (32). 7.00 Biolog. (25). 11.05 Dla kl. VII. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (1). 13.25 Wskaz. met. (13). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Taka ryba. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Magazyn pop.-naukowy. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Safira — fab. film. ang. 22.05 Pegaz. 22.50 Dziennik.

**Piątek — 16.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. (1). 7.00 Wskaz. met. (13). 9.00 Dla kl. V: Geogr. 11.05 Dla kl. II: Pr. dla najmł. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (26). 13.25 Hod. zwierz. (24). 15.20 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sport. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Poradnik zmotor. tur. 17.50 Cienie zanikają w południe — ser. prod. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Komedii: C. Goldoni: Awantura w Chioggi. 21.40 We dwoje — fab. film TP. 23.05 Dziennik.




**Piątek 9.IX** — 8.30 Koncert. 9.15 Film fab. 10.45 Koncert. 20.30 Międzynar. festiwal piosenki politycznej. 21.45 Puchar świata w akrobatyce.

**Sobota 10.IX** — 13.20 Film fab. 15.25 W świecie zwierz. 18.00 P. nożna. Dynamo (Kijów)-Torpedo. 20.30 Międzynar. festiwal pios. polit. 21.45 Puchar świata w akrobatyce.

**Niedziela 11.IX** — 10.45 Koncert. 13.00 Film fab. 14.40 Panorama międzynar. 15.10 Klub film. 16.45 Film anim. 18.15 Piosenka-77. 18.45 Film fab. 21.20 Puchar świata w akrobatyce.




**Białowieża** Flic story — fr. 13—14. Wybór celu — radz. 15—16. Nie ma dymu bez ognia — fr. 17—18.

**Bielsk Podlaski** Serpice — wł. 13—14. Bilans kwartalny — pol. 15—16. Rewolwer Python 357 — fr. 17—18.

**Czeremcha** Rok pierwszy — pol. 13—14. Dwaj panowie N — pol. 17—18.

**Czyże** Mazepa — pol. 14—18.

**Kleszczele** Tropiciel śladów — rum. 13—14. Chłopi cz. I. — pol. 15—18.

**Michałowo** Afonia — radz. 13—14. Piosenka za koronę — czes. 15—16. Na przykład Józef — NRD 17—18.

**Mielnik** Dwaj ludzie z miasta — fr. 14. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 17—18.

**Narew** Trędowata — pol. Inna — pol. 14—18.

**Nurzec** Zapamiętaj imię swoje — pol. 13—14. Karino — pol. 15—18.

B.Z.Graf. Zam. 2099 B-4

(Працяг са стар. 1)

# Юбілей чаромхаўскіх чыгуначнікаў

Многа прайшоў чалавек за тыя гады. Не адно ўбачыў сваімі вачыма. Быў я нават дэпутатам чыгуначна-дарожнага транспарта і ў 1940 годзе наведаў Маскву.

— Прайшло 70 год. Чаромха стала вялікім чыгуначным вузлом. Тут атрымалі працу тысячы людзей. Вось заглядаю ў паравознае дэпо. Кіпіць праца. Штораз то ўваходзяць, то вяртаюцца назад магутныя „Гагарыны“ (так называюць лакаматыў ст-44). Яны з Чаромхаўскай станцыі ходзяць далёка ў свет, вязуць транспарты нашай прамысловасці ў многія гарады нашай краіны, а нават і за граніцу.

Вось што кажа аб 600-асабовым калектыве рабочых паравознага дэпо старшыня рады прафсаюзаў Юзэф Дубковіч.

— Наша дэпо пабудавалі ў 1949 годзе. Тут знайшліся і памяшканні для адміністрацыі. У 1952 годзе была пабудавана вежа ціску і пампоўня. У гадах 1969-1972 пабудавалі ў нас новае дэпо.

— Наш калектыў, — гаворыць Ю. Дубковіч, — гэта адна сям'я. Маладая сям'я. У сярэднім узрост працаўніка не перавышае 35 гадоў. Тут знайшлі працу вучні прафесіянальных школ. Каля 69% працаўнікоў мае прафесіянальную адукацыю. Некалькі машыністаў ёсць нават з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй.

Да ветэранаў нашай службы можна залічыць: А. Якубяка, В. Раманчука, Ю. Дубковіча, Ю. Міхальскага, С. Камінскага, В. Яфімюка, М. Савіцкага, В. Абрамчука, В. Рыдля, С. Бартосяка і многіх іншых.

Наш калектыў з гонарам вітае свой 70-гадовы юбілей. Зберажэнне гаручага, аднаўленне памяшканняў працы, пабудова дарогі са станцыі ў дэпо — гэта частка работы, якую выканалі нашы людзі грамадскім пачынам. На ўвагу заслугоўвае факт, што Мікола Корх выконвае ў гонар юбілею помнік, які будзе адкрыты на дзень чыгуначніка. Трэба падкрэсліць, што пры кожнай грамадскай працы заўсёды важаком з'яўляюцца члены ПАРП, моладзь, члены гуртка Саюза сацыялістычнай польскай моладзі. За грамадскую дзейнасць многія атрымалі дзяржаўныя і рэгіянальныя ўзнагароды.

У гонар свята чыгуначніка, у гонар іх юбілею самыя лепшыя віншаванні ў іх самаахвярнай, як жа адказнай працы!

**Ул. Сідарук**

**МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XXXVII**

Размова паміж Польскім публіцыстам, Маскоўскім дэмакратам і Беларускім аўтарам у пэўнай ступені нагадвае выказванні аб творчасці Купалы, Пяткевіча і дыскусію аб беларускай літаратуры, пачатую ў „Нашай ніве“ Верашчакам і Ластоўскім. І Пяткевіч і Верашчака патрабавалі ад беларускай літаратуры новага тону, пошукаў новага тыпу героя, бадзёрай веры ў будучыню.

І Польскі публіцыст, і Маскоўскі дэмакрат выразна адмоўна адносяцца да нашаніўскай беларускай літаратуры, трактуючы яе як з'яву тыпова фатаграфічную і мала мастацкую. І адзін і другі гавораць аб неабходнасці стварэння літаратуры, у якой будзе дамінаваць новы тып чалавека. Польскі публіцыст даказвае, што беларуская літаратура замоцна даслоўная, занадта звязаная з побытам, са смуткамі жыцця. Гаворыць ён „Вот што, у вас цяпер літаратура... То жарты на жаданне чытакі, то там тыпы жыцця — слабенькія, мізэрныя, абросшыя дробяззю сваіх жыццёвых невялічкіх інтарэсаў, жалкенькіх ідэальцаў, то плак і плак без канца аб гаротнай долі, аб няшчаснай долі і аб незадачах мінуўшчыны і цяжарах цяперашняга часу.

...А вы дайце новага, жывога чалавека, каторы па праўдзе б жыў і жыццём сваім паказаў, як трэба жыць, як глядзець у будучыню...“

Больш-менш у такім жа тоне выказваецца і Маскоўскі дэмакрат. Вось яго словы: „Дый на што вам так карціць у вашай літаратуры гэта жалобнае жыццё? Ну напісалі, паказалі другім людзям і сабе, што вам дрэнна і што ў вас баліць, паплакалі троху, дый досыць. Шукайце новага чалавека, які ён павінен быць. А прычыны вашай нядолі вы ўжо палічылі, зразумелі, знаючы іх, шукайце раду, лекі!“




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

Трэба падкрэсліць, што вывады і патрабаванні Польскага публіцыста і Маскоўскага дэмакрата адзначаюцца знешняй лагічнасцю і яснасцю, тады калі ў выказваннях Беларускага аўтара не мала туманнага і непаслядоўнага. Яго выказванні зводзяцца да таго, што беларуская літаратура сумная таму, што сумнае беларускае жыццё. Паводле яго новыя тыпы літаратурных герояў будуць створаны толькі тады, калі паявяцца яны ў жыцці. Беларускі аўтар даволі многа гаворыць аб спецыфічных рысах беларускага характару. Даказвае, што сіла беларуса ў яго душы. На думку Беларускага аўтара беларус заўсёды ставіў вышэй духоўнае, чым матэрыяльнае. Зараз Беларусь перажывае крызіс, бо „старыя багі струпехлі, а новыя... новыя мала вядомы... і сусветна новыя багі, багі цела, багі, што даюць ці могуць даць поўнае здавальненне толькі целу, гэтыя багі не надта падабаюцца беларусу... І вот каб стварыць тып „новага беларуса“, каб угадаць, якім павінен ён быць і будзе гэты ўладар будучыні, трэба памірыць у душы беларуса старое з новым, трэба вышукаць, што ў яго душы жывуча са старыны і на чым будаваць новае“.

Агульны сэнс дыскусіі такі: Польскі публіцыст і Маскоўскі дэмакрат лічаць, што беларуская літаратура ў многім недасканалая і што трэба яе зараз змяніць. Беларускі аўтар уважае, што беларуская літаратура знаходзіцца ва ўласцівым стане і з яе пераменамі трэба чакаць. Змены ў літаратуры, яе ідэі і тыпы герояў можа падказаць толькі жыццё. Паводле Польскага публіцыста і Маскоўскага дэмакрата літаратура павінна апярэджваць жыццё, паводле Беларускага аўтара літаратура павінна ісці за жыццём.

Выказванні Польскага публіцыста і Маскоўскага дэмакрата ў многім нагадваюць выказванні Пяткевіча і Верашчакі. Погляды Беларускага аўтара ў многім супадаюць з артыкулам Купалы „Чаму плача песня наша“.

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77**



*Антаніна Шымчук з Грыгараўцаў. На цэнтральным аглядзе атрымала вылучэнне за выступленне.*

(Працяг са стар. 1)

# Кадры для сельскай гаспадаркі

зацыі сельскай гаспадаркі — у Супраслі.

— Гэта не адбываецца без цяжкасцей, праўда?

— І нават значных. Перш за ўсё ёсць такія часткі ваяводства, у якіх для далейшага належнага развіцця сельскай гаспадаркі вельмі патрэбны новыя сельскагаспадарчыя школы, але яны не паўстаюць. Напрыклад, у Нарве проста неабходна такая школа і мы планавалі яе адкрыць. Аднак гмінныя ўлады не змаглі забяспечыць набору кандыдатаў у яе. Такія ж „белыя плямы“ ў сельскагаспадарчай асвеце існуюць у гмінах Міхалова, Орля, Пасвентнэ, Вышкі, Боцькі. У гэтых мясцовасцях гмінныя дырэктары школ, працаўнікі сельскагаспадарчай службы і іншыя ўстановы замала прыкладваюць намаганняў дзеля падрыхтоўкі сярод мясцовай моладзі кадраў для сельскай гаспадаркі. Там таксама і пачатковыя школы не вядуць эфектнай выхаваўчай працы ў гэтым напрамку. Аднак маем і светлыя бакі: каля 60 працэнтаў выпускнікоў засаднічых сельскагаспадарчых школ у Янове, Сухаволі, Бранску працуе на ўласных гаспадарках і гаспадарыць вельмі добра! Не маем цяжкасцей з арганізацыяй сярэдніх сельскагаспадарчых школ і наборам у іх моладзі. Карэнным чынам змяніліся погляды моладзі на пасляматуральныя сельскагаспадарчыя студыі — цяпер мы не маем ніякіх цяжкасцей у наборы кандыдатаў у іх, а з папярэдніх год працы гэтых школ маем 115 выпускнікоў. Паспяховае заканчэнне студыі дае званне тэхніка па сельскай гаспадарцы, а гэта адкрывае перад маладымі людзьмі шырокія магчымасці працы і добрых заробкаў. Зрэшты, не толькі пасля заканчэння студыі — усе сельскагаспадарчыя школы даюць канкрэтную прафесію і высокія заробкі, ці то на ўласнай гаспадарцы, ці на дзяржаўнай пасадзе. Трэба толькі салідна вучыцца і працаваць.

— Значыць, наогул справы сельскагаспадарчай асветы на Беласточчыне выглядаюць нядрэнна?

— Я сказаў бы нават, што яны поўнасцю заслугоўваюць на добрую ацэнку. Хоць трэба яшчэ многа прыкласці працы для папулярызацыі асноўных сельскагаспадарчых школаў, асабліва ва ўсходняй частцы ваяводства. Ёсць падставы спадзявацца, што і гэта пойдзе добра, бо традыцыі мы маем не абыякія. Прыгадаю хоць бы тое, што ў мінулым годзе тэлевізійны сельскагаспадарчы тэхнікум у Бельску меў найлепшыя ва ўсёй Польшчы вынікі ўзроўню і спраўнасці навучання. З нагоды заканчэння школьнага года адбылася ў ім сустрэча выпускнікоў тэлевізійных тэхнікумаў паўночна-ўсходняй Польшчы з міністрам сельскай гаспадаркі ПНР Казімежам Барцікоўскім. Наша ваяводства паспяхова выконвае асноўныя заданні плана па развіццю сельскагаспадарчай асветы.

— Дзякую за размову.

**Гутарыў Мікалай Гайдук**

# Баратынец Рускі

(Працяг са стар. 1)

**Лесовая Дарога** (палетак ляжыць каля дарогі ў лес) і г.д. Адчуванне пераемнасці заўважаецца ў назве поля і лугу **Старэ,** што ляжыць каля рэчкі Машчонкі, адкуль, відаць, і пачало ісці загаспадарванне ваколіцы. Ды і прозвішчы жыхароў Баратынца Рускага вельмі вымоўна сведчаць пра іх даўнасць: **Айкала, Бухавец, Каліта, Кавальскі, Кавальчук, Краўчук, Мамыш, Мантур, Мудэль, Панасюк, Шаўкала, Эканамюк.**

„Заседжанасць“ тутэйшай мясцовасці выяўляецца і ў багатай вуснай народнай творчасці, што яшчэ добра захавалася ў памяці, асабліва жанчын. Не будзе лішнім прыгадаць вельмі старое паданне пра тое, што чорт уночы ўвасабляецца ў барана або ката. І так, на дарозе каля Галасоўкі, побач „здрою“ і „болотэчка“ (як мне расказаў 75-гадовы **Ян Шаўкала**), да праходзячага ноччу чалавека калісьці выбягаў чорны кот, круціўся навокал, стараючыся „збіті з дороґі“ ды вывесці ў поле. Калі ж чалавек настойліва ішоў па „кобыльніці“ (г. зн. конскаму тракту на дарозе), тады кот нічога зрабіць не мог, і, давёўшы ідучага да прыдарожнага крыжа, з дзікім рогатам скрываўся недзе. У гэтай жа ваколіцы часам знаходзілі на дарозе і звязанага чорнага барана, які потым аказваўся „нячыстай сілай“. Няма сумнення, што гэтыя легенды маюць палескі радавод.

Жыхары Баратынца Рускага вылучаюцца прывязанасцю і замілаваннем да сваёй роднай мясцовасці. На працягу аднаго пакалення (1915-1972) вёска аж тры разы гарэла датла, але ніхто па гэтай прычыне не пакінуў сваёй сялібы. Кожны раз Баратынец паўставаў з папялішчаў яшчэ прыгажэйшы і лепш загаспадараны, чым быў да пажару. Цяпер саліднасці і абсталяванню мураваных баратынскіх дамоў можа пазайздросціць не адно мястэчка. Людзі тут шануюць зямлю і „трымаюцца“ яе, на працягу апошняга дзесятка год толькі адзін селянін здаў сваю гаспадарку за пенсію, але і гэтая зямля адразу знайшла новыя дбайныя рукі. Праўда, палажэнне Баратынца Рускага непадалёк чыгуначнай станцыі і мястэчка Сямяцічы дае магчымасць значных дадатковых заробкаў па-за ўласнай гаспадаркай. Аднак гэта не цягне людзей з бацькоўскай сялібы: яны ўкладаюць зароблены грош у новыя дамы, прасторныя сучасныя аборы, машыны, хатняе абсталяванне. Цяпер у сяле налічваецца 65 гаспадарак і жыве ў ім каля 250 асоб.

За апошнія дзесяцігоддзі шэраг баратынчан закончыла вышэйшыя і сярэднія школы і працуе на адказных пасадах, напрыклад, інжынеры **Уладзімір Бухавец і Уладзімір Нічыпарук,** настаўніца **Надзея Ляхавіцкая,** лётчык капітан **Аляксандр Мудэль,** неўзабаве стане лекарам **Яўгеній Краўчук** і г.д.

Хоць дні, месяцы і гады плывуць у Баратынцы Рускім у працавітым спакоі, але гэта зусім не абазначае, што тут няма праблемаў, якія хвалююць усё сяло. Перш за ўсё — непарадак з вясковай святліцай. Гадоў дваццаць таму назад збудавалі яе баратынчане ўласнаручна. Была яна, бы цацка, аж міла глянуць і звонку і ўнутры. Потым трапіла ва ўладанне грамадскай рады ў Баратынцы, а калі тая была ліквідавана, дык правам спадчыннасці перайшла пад уладу гміннага ўпраўлення ў Сямяцічах. Хоць з Сямяціч у Баратынец рукой падаць, бо ўсяго кіламетры чатыры па добрай дарозе, але працаўнікі з гмі-



*На каленях у бабулі і дзядулі Марыі і Яна Шаўкалаў іх унукам нават і сухарыкі лепш смакуюць...*

## МАЙСТАР НА УСЕ РУКІ



## ІВАН БАРОДЗІЧ

Калі Іван стаў падрастаць, пачалі выяўляцца ў яго вялікія майстэрскія здольнасці. Калі было яму яшчэ 15 год, мог ён ужо наладзіць плуг і ў іншых кавальскіх работах быў спрытны.

З юнацкіх гадоў вядомы ён у вёсцы Кнышэвічы (Шудзялаўская гміна) як здольны цырульнік. „Наш вясковы фрыз'ер Іван Бародзіч лепш падстрыжа як гарадскі прафесіянал“ — гавораць у вёсцы. І цяпер падстрыгае ён сваіх аднавяскоўцаў і жыхароў суседніх вёсак. Прыходзяць да яго людзі і ў іншых справах. Вось, напрыклад, пацячэ банка ад малака. Іван яе залютуе. А калі ў каго сапсуецца тэлевізар, дык абавязкова клічуць яго, нягледзячы на тое, што ён самавук і не быў ніколі на ніякіх курсах, а ўсё знае ў тэлевізары дзякуючы свайму таленту.

На вёсцы, адлеглай ад гарадоў, ад рамонтных пунктаў, жыхарам шмат клопатаў стварае адсутнасць такіх „фахоўцаў“. І вельмі добра, калі знойдзецца такі кемлівы чалавек, як гэта ў Кнышэвічах, што ўмее ўсё рамантаваць. Ён таксама змантуе з некалькіх вышаўшых з карыстання тэлевізараў зусім добры, які яшчэ шмат часу можа служыць сваім экранам.

У старых Бародзічаў 7 дзяцей. Усе яны ўжо дарослыя, а некаторыя і сямейныя. І ўсе, апрача Івана, „пайшлі ў свет“ — жывуць і працуюць далёка ад роднай вёскі. Двое жывуць у Гданьску. І, каб не Іван, цяжкавата было б пастарэўшым бацькам. Бо Іван і хату новую паставіў, і вокны, і дзверы, і падлогу і печы — усё сам зрабіў. Ды шмат іншых, важных у гаспадарцы работ і прылад патрапіць выканаць. Вось, напрыклад, арха яго вырабу добра ачышчае збожжа. Ён і абутак добра падклеіць. Не так даўно ў школе перабудаваў печы. Але найбольш часу прысвячае ён працы на гаспадарцы, якая з'яўляецца асноўнай крыніцай яго ўтрымання.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

(Працяг са стар. 3)

тар. З яго даклада я даведаўся, што апрача двухкалёсных растрасальнікаў у Чорнай Беластоцкай прадукуюць яшчэ чатырохкалёсныя, а таксама дамашнія халадзільнікі высокай якасці, а таксама і некаторыя механізмы для камбайнаў тыпу „Бізон“ і шмат яшчэ чаго іншага, бо іх месячная прадукцыя перавышае 125 мільёнаў злотых. Многа яны сваіх машын прадаюць за мяжу, асабліва ў заходнія краіны.

У час перапынку падышоў я да свайго хрэсніка і ад усяго сэрца віншую яго з поспехамі.

— Малайчына ты, — гавару ў захапленні, — калі патрапіш так пасьпяхова кіраваць!

Мой Валодзька неяк вяла падзякаваў мне і зноў вярнуўся за стол прэзідыума, каб заахвоціць усіх прысутных да дыскусіі. Спачатку стаяла глухая цішыня — як у нас на вёсцы на ўсялякіх сходах. Але вось устаў адзін такі лысавы і пачаў рубаць, як сякерай, проста ў вочы:

— Маем добрыя вынікі і гэта нас цешыць. Аднак маглі б яны быць яшчэ лепшымі, каб мы ўсе разам працавалі так, як сапраўдныя рабочыя павінны працаваць! Распачалося лета, і адразу колькасць непрысутных па хваробе ў нас падскочыла. Маем добрую праграму павышэння якасці прадукцыі, але рабочыя, а нават і майстры, нічога пра яе не ведаюць. Рабочыя-мантажнікі крычаць, што не маюць на час патрэбных ім гаек, падшыпнікаў і другіх частак.

## РАСТРАСАННЕ ГНОЮ

На жаль, здараецца такое. Але хопіць паглядзець пад ногі гэтым рабочым, колькі гэтых гаек валяецца ў іх пад мантажным канвеерам...

Не ўсё я спамятаў, бо зараз за ім выступалі іншыя і пасыпаліся громы на галаву кіраўніцтва фабрыкі, што прызаводская школа памяшчаецца ў старым супрацьпажарным бараку, што ў фабрычнай малярні можна звычайна атруціцца — так паветра насычана там хімікатамі, што рабочыя выліваюць атрутныя сумесі проста ў лес, што рабочыя працуюць на вельмі старых станках, што на заводзе даволі часта здараюцца калецтвы.

Усіх дыскутантаў было можа дзесяць, а можа і пятнаццаць, ды кожны дапякаў аж да жывога. Урэшце я не вытрымаў і ўцёк з гэтай канферэнцыі.

„Свой гной, — падумаў я, — хай яны растрасаюць самі“.

З маім Валодзькам сустрэліся мы вечарам у яго на кватэры.

— Чаго вы ўцяклі з нашай канферэнцыі? — запытаў ён.

— Бо сорамна мне было слухаць, як рабочыя табе галаву мылі.

— Што вы! — усклікнуў ён. — Ніхто мне галаву не мыў. Проста рабочыя дыскутавалі пра свае справы. — Шчыра і адкрыта, як у сям'і. У гэтым і сіла рабочага калектыву!

— Хай бяда вас не ведае! — усклікнуў я. — А мне здалося, што вас усіх за гэтым сталом ужо зусім гноем закідаюць.

**Максім Нурэцкі**

## ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




*Зялёная чырымшына,*
*чом ны горыш, оно курыш?*
*Молодая сэрцэ-дывчынонька,*
*чом ны робыш, оно тужыш?*
*Молодая сэрцэ-дывчынонька,*
*чом ны робыш, оно тужыш?*
*Жэбы мэнэ подпалілі —*
*я горыла б, ны курыла б,*
*прынысь, Божэ, кого віерно*
*люблю —*
*я й робыла б, ны тужыла б.*
*Вылінулі біелы гусі,*
*з мора воды напывшыся.*
*Мондровалі аж два кавалієры*
*а з Дашуов ны жыэнывшыся,*
*мондровалі аж два кавалієры*
*а з Дашуов ны жыэнывшыся.*
*Одён ідэ — коня вэдэ,*
*хустэнькою втірается.*
*Ой, ны одна сэрцэ-дывчынонька*
*слёзонькамы вліваается,*
*ой, ны одна сэрцэ-дывчынонька*
*слёзонькамы вліваается.*

Ад Ніны Пякуцін, 1933 года нараджэння, вёска Дашы гм. Кляшчэлі, запісаў у маі 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

**У ЯГАДНІКАХ**

## БУДУЮЦЬ СВЯТЛІЦУ

Вёска Ягаднікі ў гміне Дубічы Царкоўныя знаходзіцца ля гайнаўска-кляшчэлеўскай шашы (адсюль да Гайнаўкі 10 кіламетраў). Жывуць у ёй працавітыя людзі ды й зямля тут добрая. Ва ўсіх 60 з лішнім гаспадарках на вялікім узроўні раслінаводства і жывёлагадоўля. Вёска вылучаецца сярод іншых у Дубіцкай гміне матэрыяльным узроўнем жыцця ды эстэтыкай дамоў і сельскагаспадарчых будынкаў. Тут актыўна дзейнічае шматасабовая партыйная арганізацыя, якую ўзначальвае сакратар Рыгор Назарук (ён адначасова з'яўляецца солтысам, выконваючы гэтую важную грамадскую функцыю з невялікім перапынкам ад 1961 года). Партарганізацыя заклікае ягаднічан да новых лепшых спосабаў гаспадарання і да грамадскіх пачынаў. Таму вёска Ягаднікі штогод удзельнічае ў конкурсе пад загалоўкам „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“. Ужо тры разы падрад яна заняла першае месца ў гміне і атрымала 90 тысяч злотых узнагароды. У сяле не было дагэтуль святліцы. Моладзь і старэйшыя задумалі яе пабудаваць. На адным вясковым сходзе арганізаваўся грамадскі камітэт пабудовы святліцы і было ўстаноўлена сабраць па адной тысячы злотых ад кожнага тутэйшага гаспадара. Пасля гэтага ягаднічане дружна ўзяліся будаваць найперш фундаменты, пасля звозіць жвір і будаўнічыя матэрыялы. З транспартам няма ніякіх клопатаў, бо многія з тутэйшых сялян маюць уласныя трактары і прычэпы. Зараз стаіць ужо будынак святліцы ў самым цэнтры вёскі і пасярод прыгожых гонкіх таполяў. Не гатовы ён яшчэ, але зроблена ўжо шмат. Будынак пакрыты бляхай. Нядаўна ўдалося раздабыць дошкі на шалёўку ды стружкавую пліту. Майстры пачалі рабіць столь і падлогу, а пячнік — печы (комін ужо гатовы). Святліца атрымалася прасторная, яе плошча 160 квадратных метраў. Пры пабудове гэтага вясковага цэнтра культуры працуюць жыхары вёскі: адны менш, другія больш. Працуюць увесь час пры яе будове Рыгор Назарук, Дзімітр Сурэль, Уладзімір Куптэль, Васіль Плева, Сымон Галёнка, Ян Куптэль, Ян Сурэль — сын Паўла, Мікалай Жукавіцкі і іншыя. Солтыс Рыгор Назарук, калі трэба, склікае хутка суседзяў, а нават бярэ з сабою жонку. Так было 16 жніўня, калі прывезлі дошкі з Гайнаўкі. Пару фасметраў дошак трэба было скінуць ды перанесці ў святліцу ды й шафёр рупіў. Апрача таго солтыс і другі сакратар ПОП Дзімітр Сурэль, калі трэба, ездзяць абмяркоўваць справы, звязаныя з заканчэннем пабудовы святліцы з начальнікам гміны Мікалаем Чыквіным і гмінным сакратаром партыі Васілём Сегенем. Гэтых спраў не адкладаюць на пазней. Рыгор Назарук у неадкладных справах выязджае ўласным „Фіятам-125“. Праз некалькі мінут ён ужо ў гмінным упраўленні, на складзе будаўнічых матэрыялаў у Гайнаўцы або ў іншым месцы, дзе можна купіць неабходнае для пабудовы святліцы. Гмінныя ўлады служаць парадай і дапамогай, калі трэба, дык і фінансавай. Самі гаспадары будуць маляваць будынак звонку. Трэба будзе таксама выбіць яго стружкавай плітой у сярэдзіне. Гміннае ўпраўленне абяцае свае фінансавыя сродкі і на некаторыя будаўнічыя матэрыялы і на абсталяванне вясковай святліцы. Нямала грошай спатрэбіцца, каб памаляваць, а пасля то на шторы і фіранкі, то на крэслы, то на тэлевізар. Ягаднічане вераць, што з часам у іх святліцы будзе клуб прэсы і кніжкі „Рух“.

— Усе мы хочам адкрыць новую святліцу ў канцы гэтага года, — інфармуе солтыс. — Тады абавязкова запросім да сябе прадстаўнікоў „Нівы“. „Ніва“ ў нашай вёсцы самая пажаданая газета і яе найбольш чытаюць.

**Я. Цялушэцкі**

ны не любяць заглядаць у гэтае сяло па простай прычыне: там не столькі чорны кот страшыць у „болотэчку“, колькі палохае іх запушчаная ды абдзёртая святліца, за стан якой яны адказныя! Баратынскі гурток вясковых гаспадыняў на чале з яго старшынёй **Верай Шаўкала** маюць на сваім конце каля 50 тысяч злотых, што самі зарабілі (вось гэта дык гаспадыні!), і ахвотна набылі б за гэтыя грошы патрэбнае ў святліцу новае абсталяванне, але Сямяціцкая гміна нават і гэтай прапановай не пацікавілася. Відаць, яе і такім залатым калачом да апекі над культурай не заманіш... Другая справа — гэта вечна разбітая ў сяле вуліца, якою штодзень праязджае 100-200 цяжкіх грузавых машын, больш за ўсё з мясной цэнтралі, але нікому і ў галаву не прыйдзе, каб дапамагчы баратынчанам у пабудове цвёрдай паверхні на гэтай рухлівай дарозе. Крыху было яе зроблена пры ўдзеле грамадскага чыну, але ўвесь двухкіламетровы адрэзак дарогі — гэта не пад сілу самім сялянам. Ці пра гэта думае гміна ў Сямяцічах? Бо чуць, то яна чуе амаль на кожнай сесіі гміннай рады нарадовай!

Але турысты няхай не палохаюцца ні святліцы, ні вуліцы — у Баратынцы іх прымуць з адкрытымі рукамі і гарачымі сэрцамі, як прымалі і мяне.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Салідна будуюцца людзі ў БаратынцыРускім.*

## Janusz Laskowski



### Фота па заказу

**Заказвалі:**
Хрысціна Нічыпарук, Ольга Рагачэўская, Альжбета Цеханоўская, Барбара Нічыпарук з Гарадка, Галіна Нічыпарук з Зарэчан, Геня Саўко з Лукі, Аня Рышчук з Кузава, Хрысціна Шульц з Сямяціч, Валянціна Алямпеюк, Ірэна Мартынюк з Баброўкі, Галіна Казберук з Валіл, Марыя Пугацэвіч, Гражына Вавульская са Стрыкоў, Лена Зялінская, Эля Максімюк з Новага Ляўкова, Марыя Іванюк, Анна Бакун, Марыёля Петручук, Ніна Паўлоўская, Ірэна Дзяржынская, Веслаў Мартынюк, Генрык Кавальчук, Здзіслаў Рыкоўскі з Беластока, Ніна Іванюк з Жыўкова і дзяўчаты з Трашчотак.

### Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я. перадаў дзяржаве гаспадарку за пенсію і атрымоўвае 1300 зл. у месяц. Цяпер ён жыве ў горадзе і мае магчымасць атрымаць працу. Ён адчувае сябе добра і мог бы выконваць працу, але баіцца, што ў яго могуць забраць пенсію. Ці калі ён паступіць на працу, то не страціць пенсію, а калі не, дык колькі яму можна зарабіць?

АДКАЗ: Паводле закону з 31.III.1977 г. аб далейшым павышэнні пенсіі і Распараджэння Рады Міністраў з 2.IV. 1977 г. аб спыненні выплачвання пенсій, кожны пенсіянер можа паступіць на працу на паўстаўкі, калі заработная плата на працягу аднаго года не перавышае 24.000 зл. Гэтае правіла не адносіцца, аднак, да тых, хто атрымоўвае пенсію за перададзеную дзяржаве сельскую гаспадарку. Гэткія пенсіянеры захоўваюць права на пенсію незалежна ад таго, якую заработную плату або які іншы даход яны атрымоўваюць. Таму Я. можа паступіць на працу, што не перашкодзіць яму атрымоўваць надалей поўную пенсію за сельскую гаспадарку — у нашым прыкладзе 1300 зл.




Дарагое Сэрцайка, хаджу я з хлопцам і маем намер пажаніцца. Але непакоіць мяне адна справа. Сцёпа ў маладосці хадзіў з дзяўчынай і, калі яна зацяжарыла, Сцёпа з ёю не ажаніўся. Гэта была шумная справа. Усе людзі накінуліся на яго. І ён выехаў на працу ў горад, а я там вучылася, а цяпер працую. Вось мы і пасябравалі і пакахалі адно другое. Сцёпа мне вельмі падабаецца, але калі сур'ёзна аб вяселлі пагаварылі, мне нейк страшна зрабілася. Яго дзяўчына не выйшла замуж, гадуе дачку. Сцёпа плаціць ёй аліменты і час ад часу падарунак пашле. І ён сказаў, што калі і пажэнімся мы, ён дзіцяці свайго не забудзе. А з дзяўчынай гэтай не ажаніўся, бо не кахаў яе, памыліўся ў маладосці. А ці не прыйдзе калі яму ў голаў вярнуцца да яе, калі пра дзіця так дбае?

Ніна з Бельшчыны

Ніна! Непакой твой здаецца беспадстаўным. Ён жа не ажаніўся раней, бо яе не кахаў. А тое, што Сцёпа не забывае пра сваё дзіця, карысна аб ім сведчыць. Калі цябе гэта непакоіць, мусіш глыбока прадумаць справу, пакуль вырашыш выйсці за яго, каб будучы яго жонкай, не дакараць яму мінулым, не ўмешвацца, што высылае падарункі ці наведае дзіця. Гэта ж яго бацькоўскі абавязак.

**Сэрцайка**

### Вер-не-вер

Астронку, ты ўсім разгадваеш сны, а вось і мне прысніўся цікавы сон. Быццам у маім пакоі на падваконніку стаіць ваза, а ў ёй вялікі букет чырвоных руж. Раптам да кветак праз вакно працягваецца рука злодзея. Ён хапае кветкі і ўцякае. Прачынаюся з нейкім страхам.

Эва

Прысніўся мне страшны сон. Быццам знаходжуся я каля царквы і праз акно бачу свайго прадзеда, які ўжо не жыве. Ён падыходзіць да мяне, прыгожа выглядае, элегантна апрануты, ды і маладзейшы. За ім у акне бачу смерць з касой. Яна таксама набліжаецца да мяне. І тут я прачнулася. Са страху аж крыкнула на ўсю хату.

Люся

**Эва!** Нічога дзіўнага, што ты перапужалася. Сон твой станоўча нядобры. Чакае цябе нейкая небяспека, нейкая страта (злодзей). Нехта забярэ тваю радасць (кветкі). Злодзей дзейнічаў праз вакно — чакае цябе вялікі смутак.

**Люся!** А ты, бачыш, перапужалася непатрэбна. Я ўжо пісаў, што не заўсёды страшны сон прадвяшчае страшную падзею ў жыцці. Табе прысніўся пакойнік і смерць — дык чакае цябе доўгае жыццё. Можа будзе тым часам крыху смутку (ты ж была каля царквы), але ў каго яго няма...

**Астрон**

### Ці ведаеце што...

...ў Беластоцкім ваяводстве звыш 30% усёй плошчы зямельных угоддзяў займаюць лугі і сенажаці.

...на Беласточчыне меліяравана 54% лугоў і сенажацяў.

...пабудова вадасховішча на Нарве ў ваколіцы Семяноўкі будзе каштаваць звыш 1,5 мільярда злотых.

...ў Беластоцкім ваяводстве ёсць вадаправоды ў 56 вёсках.

...150 беластоцкіх вёсак адчувае недахоп вады, у тым ліку 18, якія з'яўляюцца сядзібай гмінаў.





## ДЛЯ ЛІЦЭІСТАК

Першы раз у ліцэй! Як апрануцца? Скромна, чыста, элегантна. Перш за ўсё варта мець пару спаднічак (пакуль цёпла, а пазней — і так вядома, што ліцэісткі будуць хадзіць у доўгіх штанах). Спаднічка можа быць з гладкага матэрыялу, у палосачку, у клетку. На нашых „мадэльках" вы бачыце спаднічкі, расшыраныя ўнізе веерам.

Найзручнейшымі да спаднічак былі б таксама спартыўныя куртачкі ці блузкі. Пад такую блузку ў клетку можна апрануць цёплы свіцер, але можна яе насіць і без нічога, з хустачкай на шыі.

Туфлі для дзяўчатак павінны быць зручныя, спартыўныя, на высокім каблуку хадзіць на заняткі не варта.

**Сяброўка**




Нікольскі ўспомніў, што перад вайной на партыйнай канферэнцыі ён пазнаёміўся з ваенным контрразведчыкам, капітанам Мацвеевым. Яны сядзелі побач у час пасяджэння, у перапынках разам хадзілі ў буфет, потым глядзелі кіно, жартавалі, абмяркоўвалі праблемы футбола. Прастатой і тактоўнасцю Мацвееў выклікаў сімпатыю. Цяпер, апынуўшыся ў цяжкім становішчы, Нікольскі вырашыў пагаварыць іменна з ім.

Час быў ранні, але Мацвееў быў ужо на службе і папрасіў адразу ж зайсці да яго. Ён, не перапыняючы і нічым не паказваючы сваіх адносін да гэтай гісторыі, выслухаў Нікольскага. Толькі дзесьці ў глыбіні позірку можна было заўважыць насцярожанасць і строгасць. Зразумеўшы сутнасць таго, што адбылося, контрразведчык выклікаў сваіх супрацоўнікаў, даў указанне ўзяць кватэру Нікольскага пад нагляд.

— Ды што там назіраць? — здзівіўся маёр. — Казімір вечарам прыйдзе па звесткі, трэба арыштаваць яго — і ўсё тут!

Мацвееў пацікавіўся, якія звесткі Нікольскі перадаў Казіміру.

— Ніякіх! Расказаў толькі, дзе і кім служыў. Астатняе абяцаў выкласці пісьмова і прынесці на кватэру.

Нікольскі быў усхваляваны. Голас яго дрыжэў, ён то садзіўся, то ўскокваў, спрабаваў закурыць, але толькі паламаў папяросу і кінуў яе ў попельніцу.

— Не хвалюйцеся, Васіль Іванавіч, — супакойваў Мацвееў. — Вы зрабілі правільна, паведаміўшы пра зробленую вам прапанову. Давайце ўсё спакойна абмяркуем і прадумаем, як быць далей...

— Па-першае, — пачаў капітан, — няма сумнення, што Казімір — вярбоўшчык германскай разведкі. Так?

— Так, — пацвердзіў Нікольскі, разгладжваючы рукамі пісьмо на шоўку.

— Па-другое, вельмі магчыма, што ў наш тыл Казімір паслан кіраўніцтвам абвера. Зімой немцы атрымалі па зубах. Планы маланкавай вайны праваліліся. Каб планаваць ваенныя дзеянні, патрэбна інфармацыя аб задумах нашага камандавання. Усе сакрэты аб войсках можна атрымаць у штабах. Вось немцы за вас і ўхапіліся. І падыходы да вас ёсць... Далей. Ці трэба затрымліваць Казіміра цяпер? Ці не лепш паказаць, што вы згодны супрацоўнічаць з ворагам?

* ✲ *

Днём Мацвееў рыхтаваў Нікольскага да сустрэчы з Казімірам. Галоўнае — трэба было скласці „данясенне", якое павінна выглядаць салідна і праўдападобна.

Мацвееву тым часам далажылі, што ў кватэры Нікольскага Казіміра ўжо няма. Контрразведчык не здзівіўся, ён разумеў, што вопытны і асцярожны вярбоўшчык так і павінен быў зрабіць. Хвалявала іншае: ці прыйдзе ён вечарам? Раптам яго выпадкова спалохае, скажам, патруль. І тады ўсё прапала. Аб тым, што Казіміра ў кватэры няма, Мацвееў Нікольскага не папярэдзіў. Ён хацеў, каб справа развівалася як мага больш натуральна...

Вечарам маёр пайшоў да сябе. Па дарозе яшчэ і яшчэ раз абдумваў, як трэба сябе паводзіць пры сустрэчы. Настроіўшыся на размову, маёр быў здзіўлены, калі Казіміра ў кватэры не аказалася.

Яніна развяла рукамі:

— Пайшоў раніцай, сказаў, што абавязкова прыйдзе заўтра.

Расказваючы гэта Мацвееву, Нікольскі адчуваў сябе вінаватым.

— А ты што думаў, ён цябе чакаць будзе, пакуль ты з чэкістамі з'явішся? Не такі ён прасцяк, каб адразу даверыцца. Але калі ён сарваў сустрэчу, ён і будзе шукаць новую. А мы пачакаем...

**Міналі дні. Назіранне за кватэрай і пошукі Казіміра па прыкметах вынікаў не далі.**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Новы клуб у Міклашэве

Ужо даўно маладыя і старэйшыя ў вёсцы Міклашэва, гміны Нараўка, думалі пра клуб. Вёска вялікая, многа хутароў. Надарылася нагода, калі тут была ліквідавана школа. Але ў школе пасяліўся СКР. Прыйшоў добры момант, калі СКР перайшоў у Нараўку: тады прадпрыемства „Рух“ адкрыла клуб.

Гаспадаром стала Геня Богуш. Ёй даверылі дзве вялікія залы. Моладзь была вельмі задаволена. Цяпер у клубе глядзяць тэлевізійную праграму, іграюць у шахматы, п'юць каву, а часам і танцуюць.

**А. З.**

## Рамонт святліцы ў Спічках

У бягучым годзе моладзь са Спічкоў рашыла адрамантаваць сваю святліцу. На гэта прызначылі даход з забавы. Апрача таго яшчэ складаліся па 30 злотых. Працавалі самі. Сцены аклеілі, вокны памалявалі. Калі ўсё давялі да парадку, упрыгожылі ў сярэдзіне. Цяпер у святліцы прыемна.

**Васіль Асеннік**

## Каля маста

У Нараўцы над рэчкаю каля маста разлажылася драўніннае прадпрыемства — філіял Ваяводскай паслутовай спулдзельні працы, аддзела ў Гайнаўцы. Не вельмі ласкавым вокам глядзяць на гэтае месца жыхары пасёлка і турысты. На супрацьлеглым беразе ракі знаходзіцца пляж. А тут гудуць электрычныя пілы і туманы пылу кружацца над галавой.

Але я не аб гэтым хачу напісаць сёння. Гэтую справу хай рашаюць улады гміны. Я хачу сказаць, што прадпрыемства патрэбнае Нараўцы. Яно выконвае многа паслуг жыхарам ваколіцы. Арганізуе грамадскія пачыны. Дае працу дваццаці асобам з Нараўкі і ваколіцы. Сумленнай і шматгадовай працай у ім адзначаюцца Аляксандр Салагуба, Аляксандр Дрозд, Фёдар Лукша, Косця Салагуба.

**А. З.**

## У Чыжах

СКР у Чыжах налічвае 65 трактароў. Яны за першае паўгоддзе гэтага года падсеялі 62 тоны вапны на 2007 гектарах поля. Выканалі многа працы па ахове раслін: на 1870 гектарах вялася барацьба з пустазеллем. Скасілі траву на 750 гектарах і столькі ж гектароў заaралі. У мінулым годзе ў сярэднім адзін трактар працаваў 1228 гадзін. У гэтым годзе выпадзе больш гадзін на адзін трактар.

**Мікалай Няплоха**

---

— Як у ваду кануў! — здзіўляўся Мацвееў.

А Нікольскі хадзіў засмучаны.

— Трэба было прыстрэліць гада, — гаварыў ён. — Таківаўчына ўцёк. Эх, памыліўся я! Яніну трэба дапытаць, магчыма, ён ёй даверыўся?

Але Мацвееў строга папярэдзіў: ніякіх дзеянняў, толькі чакаць!

Але мінуў тыдзень, другі, а Казімір не з'яўляўся.

Аднойчы вечарам нечакана пазваніла Яніна. Прагугнявіла ў трубку:

— Васіль Іванавіч, ты штосьці даўно дома не быў, не звоніш. Зайшоў бы ўсё ж...

— Я заняты. Пазней зайду, — рэзка адказаў маёр і паклаў трубку.

Пра званок тэрмінова далажыў Мацвееву. Яшчэ раз абмеркавалі магчымыя варыянты дзеянняў, і Нікольскі пайшоў дадому. Хваляваўся, але дарэмна. Казіміра і на гэты раз у кватэры не было. Старая пачаставала вячэрай і, нібы незнарок, сказала:

— Званіў Казімір, абяцаў зайсці, ды штосьці позніцца.

„Ну і ведзьма, — падумаў Нікольскі. — Уся ў пляменнічка“.

*(Працяг будзе)*

## Касірша перастаралася

Трэба мне было паехаць у Беласток. З кніжкі ПКО ўзяў я грошы. Далі мне 50-злотовы стары білет. Падаў я яго касіршы ў касе ПКП у Бельску, каб прадала мне білет. Ды касірша адмовіла прыняць яго. На маё выясненне, што я гэтыя грошы толькі што ўзяў з банка, яна мне адказала, што магу іх аднесці назад, што мяне ў банку ашукалі і што яна такіх грошай не прыме. Купіў я білет у Беласток за іншыя грошы, але рашыў даведацца, ці сапраўды старыя грошы няважныя. Падышоў і купіў у кіёску газету за іх. Ніхто нават словам не запярэчыў. Ведаю, што падобныя выпадкі ў касе ПКП у Бельску здараліся з старымі пяцісоткамі.

Ці ПКП мае іншыя законы, ці толькі несвядомых працаўнікоў? **В. О.**

## У Райску

Вёска Райск вельмі разбудавалася. Ёсць тут школа, крама, малачарня. Прыязджае кіно. Доўгі час моладзь у вёсцы не мела ўласнай святліцы. Збіраліся ў бараку. І вось уся мясцовая моладзь, а яе ў вёсцы многа, узялася і супольна з дарослымі пабудавалі вялікую прасторную святліцу. Яшчэ не цалкам яе закончылі. Зала ўнізе прызначаецца для танцаў і вялікіх сходаў, а на першым паверсе будзе кавярня і чытальня.

**Дубінка**

---

**Толькі скнара і лянівы не выпісывае „Нівы“**



## ПЕРСПЕКТЫВЫ ў СТАРАКОРНІНЕ

Вёска Старакорнін у Дубіцкай гміне славіцца сваёй традыцыйнай культурай і гасціннасцю, а таксама заможнасцю. Людзі тут жывуць багата, бо і зямля высакаякасная, III і IV класы.

Ад 1958 года існуе і развіваецца тут сельскагаспадарчы кааператыў, у якім многа членаў. Супольнай працай яны дабіліся вялікіх поспехаў. Нядаўна ў старакорнінскім кааператыве „Зялёны штандар“ адбылася ўрачыстасць, у час якой быў прыняты і аддадзены ў карыстанне новы сацыяльна-адміністрацыйны будынак. Урачыстасць адкрыў І сакратар гміннага камітэта партыі Васіль Сегень і начальнік гміны Мікалай Чыквін. У новым будынку адразу адбылася сустрэча членаў кааператыва з уладамі гміны. Аб гісторыі і супольных поспехах гаспадароў вёскі гаварыў старшыня кааператыва Аляксей Тамашук.

Значок „Заслужаны для Беласточчыны“ быў уручаны Аляксею Аліферуку



*І сакратар гміннага камітэта партыі Васіль Сегень адкрывае новы будынак кааператыва ў Старакорніне.*



*Значок „Заслужаны для Беласточчыны“ — Аляксею Аліферуку.*

— шматгадоваму старшыні РСП, цяпер члену праўлення. На заканчэнне іграў музычны калектыў, які працуе пры мясцовым клубе „Рух“.

Хочацца яшчэ сказаць, што ў Старакорніне кааператыў будуе цяпер адкормачны пункт на 1200 штук свіней, а ў плане — у недалёкай будучыні пабудаваць яшчэ тры падобныя.

**Мікалай Панфілюк**
**Фота Г. Шварца**



*Новы сацыяльна-адміністрацыйны будынак кааператыва ў Старакорніне.*

## Белавежа ў „Звярынцы“

На пачатку жніўня г.г. знаходзіўся ў Белавежы рэдактар Міхал Сумінскі, які рыхтаваў тут матэрыял для чарговых тэлеперадач вядомага і любімага дзецьмі і дарослымі магазіна „Звярынец“. Адну з тэлеперадач М. Сумінскі поўнасцю прысвяціў белавежскаму Прыродазнаўчаму музею БНП. Супольна з суправаджаючым яго кіназдымшчыкам увекавечыў ён на кінастужцы чучалы найбольш цікавых відаў птушак і млекакормячых, а таксама ўзяў інтэрв'ю ад кусташа музея др інж. Чэслава Аколава.

**Пётр Байко**




**Солтыс вёскі Апака Вялікая.** А ці вы чыталі інфармацыю пад загалоўкам „5 км за 15 год“, змешчаную ў 46/1029 нумары „Нівы“ ад 16 XI 1975 года? Яна датычыла пабудовы дарогі з Апакі Вялікай у Палічну. Адказ гмінных улад у Чаромсе ў гэтай справе быў у „Ніве“ ад 1 лютага 1976 года. Вельмі аптымістычны. Улады прынялі на сябе адказнасць за заканчэнне пабудовы гэтай дарогі. І, па ўсяму відаць, забылі, бо дагэтуль, як вам і нам вядома, нічога на ёй не зрабілі.

**Васіль Янюк, Гайнаўка.** Адказу чакайце з гміннага ўпраўлення ў Нурцы-станцыі, куды выслалі мы ваша пісьмо.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „НА ЧЫЖОЎСКІМ МЛЫНЕ“, „Ніва“ № 28/1115 ад 10 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „We młynie w Czyżach” zamieszczoną w tygodniku „Niwa” informujemy, że zarzut dotyczący braku instrukcji przemiału był częściowo słuszny, bowiem instrukcja była wywieszona, lecz w miejscu niezbyt widocznym. W związku z tym przeniesiono ją w ogólnie dostępne miejsce.

Zarzut dotyczący nie ważenia zboża przed śrutowaniem i po śrutowaniu był słuszny. Tak postępował niekiedy młynarz Włodzimierz Ostapczuk. Dlatego zobowiązano go do bezwzględnego przestrzegania instrukcji przemiału i pouczono, że w przypadku nie zastosowania się do tego polecenia, będą wyciągnięte wnioski służbowe.

Nie potwierdził się zarzut spożywania alkoholu przez młynarza.

Ob. Włodzimierz Ostapczuk jest znanym aktywistą społecznym. Pełni funkcję komendanta Gminnej Ochotniczej Straży Pożarnej i jest członkiem Kolegium Orzekającego przy Naczelniku Gminy w Czyżach. Bierze ponadto czynny udział w akcjach przy porządkowaniu zagród wiejskich, organizowanych przez Urząd Gminy. Sprawuje funkcje które częstokroć wymagają stosowania mandatów karnych, a te nie są mile widziane przez osoby, których to bezpośrednio dotyczyło. Stąd być może to było powodem do napisania tej notatki.

**W-ce Prezes**
**d/s Handlu, Produkcji i Usług**
**Bazyl Niczyporuk**

**Да заметкі „ЯКІ БУДЗЕ ЛЁС БАНКА Ў СУПРАСЛІ?“, „Ніва“ № 31/1118 ад 31 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: BANK SPÓŁDZIELCZY W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Jaki będzie los Banku w Supraślu?” z 31/1118 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 31.07.1977 roku uprzejmie informuję, że pismem z dnia 3.10.1973 r. Bank Spółdzielczy w Białymstoku uzyskał decyzję byłego Prezydium PRN Wydz. GPiOS w Białymstoku na budowę Oddziału Banku Spółdzielczego w Supraślu.

W dniu 17.07.1974 roku zgodnie z podpisaną umową przekazano plac budowy dla wykonawcy tj. Zakładu Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Supraślu z terminem zakończenia budowy w pierwszym kwartale 1976 roku. Budowę rozpoczęto w 1974 roku i przerwano po wykonaniu stanu zerowego. Wykonawca robót — Zakład Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Supraślu w ramach dokonanej reorganizacji został włączony do powstałego Rejonowego Przedsiębiorstwa Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Białymstoku. Przedsiębiorstwo to nie przejęło zobowiązań ze względu na to, że ono nie jest powołane do tego typu wykonawstwa budowlanego.

W roku 1975 Wojewódzki Urząd Pocztowy wystąpił o doprojektowanie do budynku Oddziału Banku Spółdzielczego w Supraślu skrzydła — pomieszczeń dla celów pocztowo-telekomunikacyjnych.

Wojewódzki Zarząd Rozbudowy Miast i Osiedli Wiejskich na wniosek Naczelnika Urzędu Miasta i Gminy w Supraślu dołączył do ujętego projektem budynku dodatkowo:

— część pomieszczenia dla Urzędu Poczty

— oraz zleconą przez OW BGŻ nadbudowę piętra i dobudowę sali konferencyjnej.

W roku 1977 została opracowana ekspertyza fundamentów, która wykazała, że nie można nadbudować na wykonanych już fundamentach trzeciej kondygnacji. W związku z tym Bank Spółdzielczy w Białymstoku nie będzie realizował rozszerzonego programu inwestycyjnego a budowa Oddziału Banku Spółdzielczego w Supraślu będzie realizowana systemem gospodarczym według uprzednio zatwierdzonego planu i wydanego zezwolenia. W chwili obecnej czynione są usilne starania o znalezienie wykonawcy.

**Zastępca Dyrektora**
**Banku Spółdzielczego**
**Zofia Jarosz**

**Да публікацыі „ХАЧУ ПРАДОЎЖЫЦЬ АРЭНДУ“, „Ніва“ № 20/1107 ад 15 мая 1977 года.**

**Адказвае: NACZELNIK GMINY W BIELSKU PODLASKIM.**

Nawiązując do notatki prasowej dotyczącej przedłużenia umowy dzierżawnej użytków zielonych położonych na terenie wsi Ploski dla Ob. Michała Wasiluka wyjaśniam, że Ob. M. Wasiluk użytkował grunta Państwowego Funduszu Ziemi położone na terenie wsi Ploski zgodnie z umową dzierżawną z dnia 25 marca 1975 roku ważnej do 1 września 1976 roku.

Przed wygaśnięciem umowy o przekazanie tych gruntów złożyła wniosek Rolnicza Spółdzielnia Produkcyjna w Ploskach, który decyzją Naczelnika Gminy w Chrabołach z dnia 31.05.1976 roku został załatwiony pozytywnie. Termin objęcia ich w posiadanie nastąpił po 1.09.76, tj. po okresie wygaśnięcia umowy dzierżawnej zawartej z Ob. M. Wasilukiem. Mając powyższe na uwadze brak jest podstaw do interwencji zainteresowanego.

Jednocześnie informuję, że w okolicy wsi Ploski prowadzi się scalanie gruntów. O ile nie będą rozdysponowane wszystkie grunty PFZ na rzecz jednostek gospodarki państwowej i uspołecznionej, Ob. Michał Wasiluk będzie mógł ubiegać się o ich wydzierżawienie.

**Naczelnik Gminy**
**mgr inż. Jerzy Kalina**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Іпартгумар

# ВЕТЛІВАСЦЬ

Інспектар дэпартамента чыгуначных дарог ехаў у купэ з пажылым чалавекам. Той, даведаўшыся, што перад ім інспектар, тут жа пачаў скардзіцца на грубасць чыгуначнікаў.

— Выбачайце, але ніяк не магу з вамі згадзіцца, — далікатна, але цвёрда сказаў інспектар. — Наш персанал дасканала абучаны і заўсёды ветлівы.

На станцыі інспектар выйшаў па сваіх справах, а стары высунуўся ў акно, паклікаў дзяжурнага па станцыі і спытаў яго:

— Вы не скажаце мне, калі наш цягнік прыходзіць у Тросу?

— Калі ласка, у 14.12.

— Дзякую.

Стары пачакаў мінуту і зноў паклікаў дзяжурнага.

— Баюся, я не зусім дакладна пачуў, што вы сказалі. Не маглі б вы паўтарыць, калі менавіта мы прыбываем у Тросу?

— У 14.12... — сказаў дзяжурны і адышоў ад вагона.

Яшчэ праз дзве мінуты стары тонкім галаском крыкнуў у акно:

— Дзяжурны!

З цяжкасцю скрываючы раздражненне, дзяжурны падышоў да акна.

— Выбачайце, калі ласка, — сказаў стары, — вы толькі што сказалі, што цягнік прыходзіць у 14.12. Так?

— Так, — буркнуў дзяжурны.

— Але вы ўпэўнены, што ў гэты час ён прыходзіць менавіта ў Тросу?

— Так, так, так! — зароў дзяжурны. — Не ў Буэнас-Айрас, не ў Цімбукту, а ў Тросу!

— Ну навошта ж нервавацца? — ветліва спытаў стары. — Лішні раз упэўніцца ніколі не шкодзіць. Значыць, калі я вас правільна зразумеў, наш цягнік прыходзіць у Тросу ў 14.12. Так?

Дзяжурны заскрыпеў зубамі, твар яго пачырванеў.

— Паслухайце, — зашыпеў ён, — калі вы яшчэ раз спытаеце мяне пра час прыходу ў Тросу, я вас... — дзяжурны глыбока ўздыхнуў і выпусціў паветра. Кулакі яго то сціскаліся, то расціскаліся.

— Калі вы, безумоўна, упэўнены... Вы напэўна ведаеце, што мы прыбудзем менавіта ў гэты час?

Дзяжурны кінуўся да акна, але стары паспеў апусціць шыбу. Праз некалькі мінут у купэ вярнуўся інспектар.

— Выбачайце, — сказаў стары, — вы не маглі б аказаць мне невялікую паслугу? Падыміце, калі ласка, шыбу, а то мне цяжка гэта зрабіць, і спытайце дзяжурнага, калі наш цягнік прыходзіць у Тросу.

— З прыемнасцю, — сказаў інспектар, падняў акно і спытаў дзяжурнага, калі цягнік прыходзіць у Тросу.

Дзяжурны дзіка паглядзеў на інспектара, перахрысціўся і схапіў яго за шыю.

— Я вам пакажу Тросу! — зароў ён. — Вы сваю Тросу з роду не забудзеце!

Стары ледзь адцягнуў інспектара ад акна і сказаў:

— Вось бачыце, а вы гаварылі, што чыгуначнікі ветлівы народ!

**Б. Валстром** (Швецыя)



# НІЎКА



### ПРЫВІТАННЕ

— Насільшчыкі! — гукнуў на ўвесь перон Кастусь, выходзячы з цягніка.

Падбегла некалькі чалавек.

— Насільшчыкі! — не звяртаючы на іх увагі, зноў гукнуў Кастусь.

Мяркуючы, што ў яго многа рэчаў, падбеглі ўсе насільшчыкі. Кастусь глянуў на іх, падняў руку і кажа:

— Прывітанне насільшчыкам сталіцы ад насільшчыкаў Задрыпанкі!

### ЧЫГУНАЧНІК

Дакарае жонка мужа:

— Вечна ты п'яны. Вось і ўчора напіўся!

— То ж Дзень чыгуначніка быў.

— А табе што да таго? Ты ж шафёр.

— Але мы ж каля вакзала жывём.

### ЗАДАВОЛЕНАЯ

У Задрыпанку правялі электрычнае святло. Электраманцёр зайшоў у адну з хат і сказаў бабулі:

— Ну, цяпер вы задаволены, што ў вас ёсць святло?

— Так, — адказала бабуля. — Цяпер па вечарах буду запальваць электрычнасць, каб хутчэй знайсці газнічку.

### ЗБЯНТЭЖАНЫ

Міколка прыйшоў у школу без ручкі. Настаўнік вырашыў яго пакараць.

— Ты павінен, ужываючы займеннікі, паўтарыць сказ дзесяць разоў: „У мяне няма ручкі“, „У цябе няма ручкі“, „у яго няма ручкі“, „у нас няма ручкі“, „у вас няма ручкі“...

— Калі ні ў кога няма ручак, — збянтэжана перабіў яго Міколка, — то чым жа я буду пісаць?



...Так нечакана кінуўся да славы, што тая, спалохаўшыся, уцякла ад яго.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбо Алі Баўтручук з Клейнік, Янкі Парфенюка і дзяўчат з Трашчотак змяшчаем песню*

## POMPA

słowa: Agnieszka Osiecka
muzyka: Jacek Mikuła
śpiewa Maryla Rodowicz

Nie ma jak pompa,
marmury, wielki dzwon,
nie ma jak pompa
purpura, góra, tron.
Nie ma jak pompa,
fanfary, czary i ja i on.
Nie ma jak pompa,
doroczny bal u wód,
nie ma jak pompa,
salony Hollywood,
nie ma jak pompa,
grand valse i rewia mód — ósmy cud.

Panie i
panowie,
gorsetów biel,
chrapy i
hrabiowie,
zalotów cel,
szampan i
jałowiec,
słowiczy trel...

Ja uwielbiam wielką skalę
i La Scalę i bal...

Nie ma jak pompa,
dekolty a la carte,
nie ma jak pompa,
„maleńka, to był żart",
nie ma jak pompa,
szalone usta i nocy czar...
Ty mi tulipany daj,
i kormorany
i nenufary,
ty mi, ty mi, ty mi daj.
Dobrzy ludzie mówią mi — kobito,
ach na co ci to,
kompoty warz.
A ja pragnę choćby incognito
pokazać szyk,
wszędzie być,
ach, być, wszędzie być, o je, je, jej.
Kurna chata
owinięta w dym,
„Trędowata"
przy łóżeczku mym,
nie poradzisz nic,
ja kocham pic,
a prosty widz — to nie ja.
Kobito, ach na co ci to,
na co mi?
Nie wiem sama.



*— Здаецца, яна ўцякала з чыгуначнікам.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У кафэ размаўляюць двое рабочых.

— Ведаеш, з усіх музычных інструментаў я аддаю перавагу толькі фартэпіяна, — гаворыць адзін.

— А я — губному гармоніку, — адказвае другі.

— Як так можна гаварыць? — абразіўся першы. — Паміж гэтымі інструментамі няма ніякага параўнання!

— Гэта так, але я працую грузчыкам.

### ПЕРШАЕ ПЫТАННЕ

— Разумееш, мой знаёмы, пазяхаючы, вывіхнуў сабе сківіцу.

— Што ты яму такое расказваў?

# Курёзы

### НА ВАРЦЕ СТРАХУ

Італія не можа скардзіцца на малую колькасць органаў аховы парадку. У складзе пяці відаў паліцыі — 230 тысяч чалавек. Такім чынам, на 239 жыхароў прыходзіцца адзін паліцэйскі, у той жа час у Францыі — на 310 жыхароў, а ў Англіі — на 489. Тым не менш у краіне расце злачыннасць. Страх перад рабаўнікамі прымушае банкі, прадпрыемствы і асобных багацеяў звяртацца да паслуг прыватных дэтэктываў і ахоўнікаў. У краіне адкрылася 1500 бюро, якія пастаўляюць розных вартаўнікоў.

### ВАЛАСЯНАЯ ГІСТОРЫЯ

Заходзіць неяк да берлінскага дэрматолага Лазара адзін пацыент з правінцыі і просіць які-небудзь сродак супраць выпадзення валасоў. Той абследаваў яго ўважліва і выпісаў рэцэпт.

— Вам трэба будзе час ад часу прыходзіць да мяне.

— Гэта немагчыма. Я жыву далёка ад Берліна.

— У такім выпадку прысылайце мне некалькі валасоў. Я абследаваць буду іх пад мікраскопам і паведамляць вам вынік.

Шчыра падзякаваўшы Лазару, задаволены пацыент паехаў дамоў і на працягу года прысылаў яму свае валасы па пошце. Нарэшце ў апошнім пісьме ён паведаміў.

— Усё. Гэта апошнія. Цяпер я пачынаю аблысеў.




Кідай курыць! На свеце ёсць шмат больш прыемных спосабаў скараціць сваё жыццё.